ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА №20

двухтыднёвая часопісь для меншых дзяцей

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ

1932 ГОД ВЫДАНЬНЯ 4

# Сьвята Перамог

Песьнямі гамоніць
Наш савецкі край,
Вуліцы сягоньня
Чырваньню гараць.

Зіхацяць плякаты
На усіх дамох—
Мы сьвяткуем сьвята
Слаўных перамог.

Дружна працавалі
Мы пятнаццаць год.
Новых збудавалі
Не адзін завод.

Новых збудавалі
Не адзін калгас,—
Дружна працавалі
Гэты ўвесь мы час.

Дзень-у-дзень няспынна
Уперад мы ідзём.
Творым калектыўна
Новае жыцьцё.

Шмат яшчэ работы
Трэба нам канчаць—
З большаю ахвотай
Будзем працаваць!

Песьнямі гамоніць
Наш савецкі край,
Вуліцы сягоньня
Чырваньню гараць.

А. ЯКІМОВІЧ.

Партрэт зроблены з друкарскіх лінеек.
Работа вучня ФЗВ друк. імя Сталіна т. ЛЯНДРЭСА





тав. СТАЛІН ЯЗЭП ВІСАРЫЁНАВІЧ— лепшы вучань Леніна, правадыр камуністычнай партыі і сусьветнага пралетарыяту

Л. САВЕЛЬЛЕЎ

# АБЛАВА

## МАЛЮНКІ З МІНУЛАГА

**Летам 1917 г. улада знаходзілася ў руках буржуазнага „Часовага ўраду“. Гэты ўрад ніякай палёгкі працоўным не даў. Мільёны людзей гінулі на вайне, а фабрыканты і памешчыкі нажываліся з гэтага.**

**Правадыр пралетарыяту тав. Ленін кідае кліч працоўным—змагацца супроць ураду буржуазіі, за Саветы. Рабочыя, салдаты і сялянская бедната пайшлі на бой. У кастрычніку 1917 г. адбылася пралетарская рэвалюцыя, якая прынесла волю ўсім прыгнечаным.**

**Гэта апавяданьне—малюнак апошніх дарэвалюцыйных дзён у Петраградзе (цяперашні Ленінград).**

Быў хмуры вечар. Дзьверы адчыніліся, у залю, дзе былі юнкеры*), увайшоў афіцэр і прачытаў: „Адурманеныя бальшавіцкай агітацыяй, рабочыя ўзьнялі паўстаньне. Яны хочуць адабраць фабрыкі ў фабрыкантаў, зямлю ў памешчыкаў і спыніць вайну. Трэба даць ім адпор“.

Афіцэр згарнуў паперку і сказаў:

— Нам дадзены загад арыштаваць бальшавіцкіх правадыроў, а ў першую чаргу Леніна.

Юнкеры скора пастроіліся. Адзін з іх запытаўся:

— А дзе Ленін?

— Дакладна невядома, — сказаў афіцэр. — Вядома толькі, што ён у Петраградзе. Скарэй за ўсё, што ён хаваецца ў рэдакцыі „Праўды“.

Атрад юнкераў рушыў на Выбаргскі бок.

А ў гэты час з дому на Выбаргскім баку вышаў нейкі чалавек і агледзеў вуліцу. Гэта быў жыхар гэтага

*) Юнкеры—вучні школы, дзе вучыліся на афіцэраў.

дому, рабочы Рах‘я. Ён махнуў рукою і з варот вышаў яшчэ адзін чалавек. Гэта быў невялікі, шырокаплечы чалавек. Твару яго нельга было разгледзець: ён быў абвязаны хусткай, нібы ў яго балелі зубы.

Абодва ішлі моўчкі, наставіўшы каўняры, абыходзячы месцы, дзе гарэлі ліхтары. Яны падыходзілі ўжо да Ліцейнага мосту, калі пачулі нейкі шум і крыкі. На сярэдзіне мосту стаялі салдаты і нікога не прапускалі. Рабочыя хацелі прарвацца да Смольнага.

— Як-жа быць, Уладзімер Ільліч,—сказаў ціха Рах‘я,— другой дарогі да Смольнага няма.

Ільліч шапнуў Рах‘і нешта на вуха. Абодва падышлі да самага мосту і пачалі чакаць.

Рабочыя на сярэдзіне мосту паспрабавалі прарвацца скрозь салдацкую заставу.

Тады Рах‘я і яго спадарожнік праскочылі за сьпінамі салдат і ніхто іх не заўважыў.



*Юнкеры скора пастроіліся ў рады...*

А атрад юнкераў, што шукаў Леніна, падыходзіў ужо к дому, дзе зьмяшчалася рэдакцыя „Правды“. Гэта быў вялікі дом з сотнямі пакояў. Рэдакцыя „Правды“ займала адзін пакой.



— Стой!—закрычаў казак.

Калі ў рэдакцыі даведаліся, што падыходзяць юнкеры, хтосьці падбег да дзьвярэй і сарваў дошчачку з надпісам: „Правда“. Потым павярнуў ключ у замку. Сакратар заваніў па тэлефону:

— Штаб Чырвонай гвардыі! Гавораць з „Правды“. На лесьніцы юнкеры! Вышліце атрад чырвонагвардзейцаў. Чым скарэй, на грузавіку! Выратоўвайце, таварышы!

А юнкеры памалу ішлі па доўгім калідоры. Яны праходзілі міма соцен дзьвярэй. Але рэдакцыі „Правды“ ня было. Яна нібы скрозь зямлю правалілася.

У гэты час Рах'я з таварышам ішлі ўжо па Шпалернай вуліцы. Раптам Рах'я схапіў свайго спадарожніка за рукаў.

— Казакі!

— Стой, куды ідзіцё?—закрычаў казак.

Рах'я засунуў руку ў кішэню і памацаў рэвальвэр. Потым ён выняў руку з кішэні. Ленін ішоў далей, як-бы ён і не заўважыў крыку.

— Куды?!—закрычаў Рах'я, хістаючыся і размахваючы рукамі.

— Дадому іду. А што я крыху выпіў, дык-жа я...— адказаў Ленін, таксама прытварыўшыся п'яным.

Казак замахнуўся нагайкай, але другі крыкнуў яму:

— Кінь, знайшоў час з п'яным зьвязвацца.

І патруль паехаў далей.

Праз чвэрць гадзіны Ленін сядзеў ужо з таварышамі ў Смольным і абмяркоўваў плян паўстаньня.

А перад домам рэдакцыі „Правды“ стаяў натоўп і глядзеў, як чырвонагвардзейцы ўсаджвалі ў грузавік арыштаваных юнкераў.



# ОРДЭН ЧЫРВОНАГА СЬЦЯГУ № 2308

*„Байцоў Чырвонай арміі якія праявяць асаблівую сьмеласьць і мужнасьць на вайне, узнагароджваць ордэнам Чырвонага сьцягу“*

Так пастанавіў Ц. В. К. 16 верасьня 1918 г. Першы быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага сьцягу т. БЛЮХЕР.

У гэтым нарысе мы раскажам пра аднаго з герояў грамадзянскай вайны— чырвонасьцяжніка тав. БАЙКОВА І. Н.

**БАЙКОЎ І. Н.** нарадзіўся ў сям'і селяніна Жлобінскага раёну ў 1899 годзе.

Прымаў актыўны ўдзел у партызанскіх атрадах у час нямецкай акупацыі. Пасьля адступленьня немцаў добраахвотна пашоў на змаганьне супроць банды Булак-Балаховіча. Быў у радох Чырвонай арміі на белапольскім фронце.

Пасьля замірэньня з Польшчай, тав. Байкова камандыравалі вучыцца на 45 Віцебскія пяхотныя курсы.

У 1921 годзе прымаў актыўны ўдзел у падаўленьні Кранштадцкага мецяжу, які быў арганізован генэралам Казлоўскім.

Вось што тав. Байкоў расказвае пра гэты час.

— Прыехалі мы, курсанты, камуністы, з Віцебску ў Петраград. Холадна яшчэ было, хаця і быў ужо сакавік.

... Пайшлі мы ўночы 17 сакавіка ў наступленьне на мяцежнікаў. Мяне камандзір роты тав. Сідаровіч назначыў камандзірам кулямётнага ўзводу і загадаў мне першаму весьці свой узвод у наступленьне на форт № 7.

Доўга ва ўсім белым адзеньні, каб не заўважылі мяцежнікі, паўзьлі мы па лёдзе Фінскае затокі.

Падкраліся блізка—адкрылі агонь. Завязаўся бой з мяцежнікамі. Падалі ўмоўны сыгнал нашым часьцям. Тыя пачалі

наступаць. З усіх бакоў пайшлі ў наступленьне. Разгарэўся вялікі бой. Стралялі з гарматаў, кулямётаў, вінтовак, кідалі гранаты.

Нам удалося выбіць мяцежнікаў з форту № 7.

Цяжэй было ўзяць форт № 6.

Каля гэтага-ж форту мяне ранілі ў нагу. Толькі ня было калі прыслухоўвацца да болі. Нацякло гарачай крыві многа, а я усё-ж не выбываю са строю.

З вялікімі стратамі ўзялі форт № 6 і, ня спыняючыся, пайшлі ў наступленьне на форт № 4.

А далей што было—ня памятаю. Я прышоў да памяці ўжо ў Петраградзе, лежачы ў шпіталі. Мяне кантузіла ў галаву.

За адвагу мяне Рэвваенсавет рэспублікі ўзнагародзіў ордэнам Чырвонага сьцягу за № 2308. А камандаваньне Віцебскіх пяхотных курсаў узнагародзіла мяне рэвальвэрам.

Зараз тав. Байкоў працуе на кіруючай гаспадарчай рабоце.



*Атрад коньніцы Будзённага. (Здымак зроблен у 1920 г.).*

# СЫН ПАРТЫЗАНА

Верш М. ЧАРОТА
Малюнкі ДАВІДОВІЧА



Была вайна. Жахлівы час.
Мужчын пабралі з кожнай хаты...
І бачыў хлопчык наш ня раз,
Як плачуць жонкі і дзяўчаты.

Пытае ў бацькі: дзе, чаму
Забіты іх сусед Ігнатка?
Стары адказвае яму:
„На сьвеце, сынку, непарадкі".

Ён слухае, раскрые рот,
Ды кепска цяміць яго розум.
А вось прышоў дваццаты год,—
Пазнаў і ён вайны пагрозу.

Па бацькавых старых плячах
Гуляў бізун белапаляка...
Са страхам жудасьці ў вачах
Сын захаваўся й горка плакаў.

Стары пакут усіх ня зьнёс, —
Уцёк у лес з сякерай вострай...



Цяпер у сына замест сьлёз,
Запала ў сэрца злая помста.

Ён гора з помстай парадніў.
Быў Аляксей бясконца рады,
Калі у ліпенскія дні
Прышлі чырвоныя атрады.

Не загаіць так хутка ран,
Калі зямля крывёю зьліта...
Сярод забітых партызан
Бацьку знайшоў свайго забітым.

Чырвоных ласку сын адчуў,
З ім гаманілі так гасьцінна...
— Паном—зладзеям адплачу,
Вось толькі дайце падрасьці мне!

* * *

І вось яму сямнаццаць год.
Дарослым стаў, такі здаровы.
Праводзіць ён сялянскі сход...
Дадзім цяпер герою слова.

— Мы, камсамольцы, як адзін,
Даўно працуем у калгасах,
Ня верыць хто — прыдзі, глядзі,
Што творчы дух там наш ня
гасьне.

Мы дружны ўсе—адна сям'я,
Лягчэй і праца ў калектыве...
Хто нас раней не асьмяяў?
Хлусьня, усе мы там шчасьлівы.

Ў калгасе быць даўно вам час,
Паверце словам Аляксея,
Што вораг клясавы між нас
Разлад, няпраўды чуткі сее.



Ня верце ім—вось заклік мой,
Таварышы-браты, сяляне,
Людзям са здрадніцкім кляймом,—
Яны—часоў крывавых здані.

Ім хутка сьмерць. Сьмялей удар!
Хай зьмеямі шыпяць пужліва.
Сягоньня—мы тут гаспадар
І наша сіла—калектывы.

З павагай слухалі усе
Ды гаварылі на сабраньні:
— Ну, малайчына Аляксей!
Хоць малады, ды дужа раньні.

І вось герой наш Аляксей
У такой пашане не напрасна,—
Ён прыклад моладзі усей,
Ударнік лепшы у калгасе.

Ад золаку да першых зор
З сялянамі працуе ў полі.
Прыедзе змораным на двор,
Адразу не спачне ніколі.

У ціхі вечаровы змрок
Над кніжкаю сядзіць ён крукам.
Ён дзьверы возьме на замок,
Аддасца у палон навукі.

Калі-ж бывае вольны дзень,
Дзе там спачын такой натуры!
Хлапцоў на стрэльбішча вядзе,—
Першы стралок і фізкультурнік.



Нястрымны баявы настрой
У час вучобы захапляе,
І повен помсты наш герой,
Нібы у ворага страляе.

Ён толькі марыў аб адным,—
Ці спаць лажыцца, ці прачнецца:
Як прыдуць прызыву гады—
Быць баявым чырвонаармейцам.

О, палкасьць летаў маладых,
Сягоньня Аляксей шчасьлівы!
У Чырвонай арміі рады
Дзень надышоў яго прызыву...

... Шумяць лясы, маўчаць даліны,
Гарыць агнём крывавым рань,
Радзіму мілую пакіну
Я—сын чырвоных партызан.

Я партызан заветы помню,
Геройства крок іх быў вялік,
Для іх найлепшы будзе помнік,—
У бой ісьці, як бальшавік.

# ПЕРАМОГА КАСТРЫЧНІКА



Да рэвалюцыі ў Беларусі ня было ніводнай вышэйшай школы. Зусім мала было і пачатковых школ. Больш палавіны людзей заставаліся няграматнымі на ўсё жыцьцё.

Мінула толькі 12 год з часу вызваленьня Беларусі ад белапалякаў. За гэтыя гады мы дабіліся таго, што ўсе дзеці вучацца ў школах. Усе дарослыя сталі граматнымі. Мы адкрылі дзесяткі вышэйшых школ, сотні тэхнікумаў.

На фатаграфіі — Унівэрсытэцкі гарадок у г. Менску.




З кожным годам паляпшаецца дабрабыт працоўных.

Каб вызваліць жанчын ад кухні, ад лішняй работы, мы адкрываем сталоўкі, будуем фабрыкі-кухні. Гэтым самым мы даем жанчынам магчымасьць працаваць на вытворчасьці, быць актыўнымі ўдзельнікамі нашага сацыялістычнага будаўніцтва.

На фотаграфіі—праэкт пабудовы фабрыкі-кухні ў г. Менску.

Яшчэ ня так даўно, да рэвалюцыі, мільёны сялян ня мелі нават плуга. Нажыць плуг бедняку не пад сілу было. Зямлю аралі старасьвецкімі сошкамі. Не аралі, а псавалі. Да таго-ж, уся зямля была падзелена на вузенькія, дробныя палоскі. Пасярод гэтых палосак стракаціліся нязьлічоныя межы.

Гэты жахлівы час мы з посьпехам пераціваем. Зараз на палёх Беларусі працуе звыш двух тысяч трактароў. Большая палавіна межаў зьнішчана. Сялянская бедната і серадняцтва будуюць новае жыцьцё калектыўна.



Прэміяваная ўдарніца жывёлагадоўчага саўгасу „Вілень“, тав. МАШЧЫНСКАЯ М



КАМБАЙН. Сельскагаспадарчая машына, якая адразу жне, малоціць і ачышчае збожжа. Такія машыны мы раней прывозілі з Амэрыкі, а зараз вырабляем самі на сваіх заводах.

# У КРАІНАХ
## ГОЛАДУ І ЖАБРАЦТВА

Мы жывем у вольнай краіне. Гаспадары нашай краіны—гэта самі працоўныя. Усё, што мы робім, ідзе на карысьць працоўных і іх дзяцей.

А як-жа жывуць зараз рабочыя і сялянская бедната за межамі? Яны вымушаны працаваць да астатняй сілы на сваіх гаспадароў—фабрыкантаў і памешчыкаў. Уся іх праца ідзе на карысьць буржуазіі. За работу плацяць мізэрныя капейкі. Але ня ўсе маюць і гэтую катаржную работу.

Дзесяткі мільёнаў рабочых за межамі ня маюць ніякай работы. Яны са сваімі сем'ямі вымушаны галадаць і паміраць галоднай сьмерцю.

Лепшых рабочых, што ўзьнімаюцца на змаганьне супроць буржуазіі, кідаюць у турмы. У аднэй толькі Польшчы гібее ў турмах звыш 10 тысяч рэвалюцыянэраў.



**Так распраўляецца буржуазія з рэвалюцыянэрамі.**



Турмы буржуазных краін перапоўнены палітзьняволенымі.

Дзеці рабочых ня могуць вучыцца ў школах. Яны босыя, неадзетыя, галодныя. Буржуазія не клапоціцца аб дзецях рабочых. У Германіі на ўтрыманьне паліцэйскіх сабак трацяць грошай больш, чым на сьнеданьні школьнікам. Тое-ж самае і ў іншых дзяржавах.

Пралетарскія дзеці разам з бацькамі выступаюць на змаганьне за свой Кастрычнік. Дзеці гуртуюцца ў піанэрскія атрады. Зараз ва ўсім сьвеце, бяз нашага Саюзу, налічваецца 500 тысяч піанэраў. Гэта—вялікая маладая сіла. Яна расьце з кожным днём.



Так жывуць рабочыя і іх дзеці за межамі.

# ГОНАР ПЕРШАЙ ПЯЦІГОДКІ

За першую пяцігодку мы пабудавалі многа новых заводаў і фабрык. Сярод гэтых пабудоў — ДНЯПРОЎСКАЯ ЭЛЕКТРАСТАНЦЫЯ ІМЯ ЎЛ. І. ЛЕНІНА.

Такой магутнай пабудовы сьвет яшчэ ня бачыў. Дняпроўская электрастанцыя самая вялікая ва ўсім сьвеце.

Электрастанцыя ў скорым часе будзе замяняць сілу 16-ці мільёнаў рабочых. Электрычная сіла—ток — пабяжыць па нязьлічоных правадох на тысячу кілёмэтраў кругом. Сотні



заводаў будуць жывіцца гэтай сілаю. Дняпроўская электрастанцыя дае току ў паўтара разы больш, чым усе электрастанцыі былой царскай Расіі.

Воды Дняпра пасьля пабудовы гаці ўзьняліся і рака стала многа глыбейшай. Па ёй уздоўж могуць хадзіць вялікія параходы.

10-га кастрычніка Савецкі Саюз сьвяткаваў вялікае сьвята перамогі—пуск Дняпроўскай электрастанцыі. З гэтага дня Днепрабуд увайшоў у строй гігантаў першай пяцігодкі. Воды магутнага Дняпра служаць на карысьць сацыялізму.

Працоўныя, пад кіраўніцтвам партыі, перамаглі Дняпро.

Дзесяткі герояў пабудовы, лепшых рабочых і кіраўнікоў, былі ўзнагароджаны ордэнам Леніна, Чырвонай зоркі і Працоўнага Чырвонага сьцягу.

Усьлед за Днепрабудам вырастуць новыя вялікія электрастанцыі ў розных мясцох Саюзу.



ДНЯПРОЎСКАЯ ДЗЯРЖАЎНАЯ ГІДРАЭЛЕКТРЫЧНАЯ СТАНЦЫЯ ІМЯ У. І. ЛЕНІНА.

# МАГНІТАБУД

На Урале ёсьць гара „Благодать“. Унутры яе сотні гадоў спакойна ляжала руда (руда ідзе на выплаўку чыгуну). За гэта гару і назвалі „Благодать“, што значыць добрая багатая гара.

Раней руду здабывалі рукамі. Буржуі не стараліся ўводзіць машыны. Заместа машын яны прымушалі працаваць рабочых, танна плацілі ім за работу, нажываліся з іх працы. Кепска жылося уральскім рабочым, ня раз прыходзілася ім баставаць.


Лепшы ўдарнік-ліцэйшчык т. БЕРНАТ.

Пасьля рэвалюцыі уральскія горы былі атакаваны савецкімі інжынэрамі і тэхнікамі, якія шукалі і падлічвалі запасы руды.

— Руды вельмі многа. Хопіць на дзесяткі год работы,—так адказвалі разьведчыкі.

На месцы маленькіх заводзікаў пачынае будавацца па апошняму слову тэхнікі Магнітабуд.

Узвышаюцца домны. Расьце новы горад Магнітагорск. Месца, дзе гулялі зьвяры, бушавалі зімою завірухі, пакрываюцца строй-

У Магнітагорску вырастаюць домны,
роўных якіх няма на ўсім сьвеце





**Шахцёры—ударнікі Данбасу.**

нымі дамамі. Вырастаюць домны, роўных якім няма на ўсім сьвеце.

Ручная праца замяняецца машынамі.

Домны Магнітагорска ўжо даюць чыгун. Адна за другою пачынаюць працаваць вялікія печы.

Нядаўна, гэтым летам, пушчана ў работу домна № 2, зробленая камсамольскімі брыгадамі. Яе імя „Камсамолка" цяпер ведае ўвесь сьвет.

Яна ня мае сабе роўных ва ўсім сьвеце.

А раней нам прыходзілася купляць чыгун у капіталістычных краінах.

Словы правадыра камуністычнай партыі т. **Сталіна**— „Задача СССР дагнаць і перагнаць капіталістаў, разьвіць сваё машынабудаўніцтва, вырабляць у сваёй краіне розныя машыны і тавары"—выпаўняюцца на справе.

Так з кожным годам расьце і мацнее наш Саюз.

# На варце Кастрычніка



Нарыс чырвонаармейца
Р. ШАТЭРНІК

## Страляць так, як тав. Варашылаў

Сёньня ў нас была вучэбная стральба. Вучыліся метка страляць, каб выканаць загад т. Варашылава: страляць ня менш, як на добра.

Яшчэ за дзень да стральбы сабраў камандзір зводу сваіх чырвонаармейцаў ды кажа:

— Заўтра будзем страляць. Мы павінны навучыцца страляць так, як страляе нарком Варашылаў.



Тав. К. Е. ВАРАШЫЛАЎ.

— Тав. камандзір, а як ён страляе? — ня вытрымаў адзін чырвонаармеец.

— А так: на 50 шагоў з 100 магчымых ачкоў выбівае 89 з нагана, а па кулямёту сказаў: „бяруся спаборнічаць з найлепшым стралком-кулямётчыкам“. Чулі? Дык вось давайце будзем спаборнічаць з т. Варашылавым. Заўтра ўсім трэба выпаўніць задачу.

Не пасьпеў адыйсьці камандзір, як чырвонаармейцы пачалі заключаць між сабою дагаворы на сацспаборніцтва.

Спаборнічаў увесь звод. Задачу па стральбе выканалі добра. Лепшыя вынікі далі **Угакоў**, рабочы, камуніст, **Старчанка**—калгасьнік, камуніст, **Гарбачоў**—камсамолец.

## Армія — баявая школа

У Чырвоную армію Мацкевіч Сымон прышоў зусім няпісьменным. Літараў нават ня ведаў.

— Ня было калі вучыцца. З малых год працаваў батраком у кулака (у Трасьцянецкім сельсавеце, Менскага раёну). Не даваў ён мне вучыцца.

Праз пяць месяцаў вучобы на лікпункце Мацкевіч стаў добра пісаць і чытаць.

Аднойчы ён падыходзіць да сакратара камсамольскай ячэйкі і дае яму пакамечаную паперку. Пры гэтым ціха гаворыць:

— У камсамол думаю.

З кожным днём расла камсамольская ячэйка. Спачатку было ўсяго 18 камсамольцаў, а цяпер 32. Лепшыя ўдарнікі баявой вучобы ўступаюць у рады камсамолу. Лепшых камсамольцаў перадаем у партыю.

## Прышлі піянэры

4-га верасьня быў вельмі цікавы дзень. З падшэфнага калгасу „Сацыялізм“ у казарму да нас прышлі госьці— піянэры. Чырвонаармейцы радасна іх сустрэлі. Правялі разам з імі сход. Чырвонаармейцы расказалі, як яны вучацца страляць, каб у будучай вайне даць адпор буржуям.

Вось выступіў адзін піянэр. Зваць яго Сулімчык Мікола. Ён расказаў, што і піянэры вывучаюць вайсковую справу.



Тав. КАЛІНІН і БУДЗЁНЫ на фронце. (Здымак 1920 года)



— Мы навучылі граматце траіх дапрызыўнікаў, сабралі на самалёт „Камсамолец“ 27 руб., маем пры школе агарод у карысьць МОПР. Нават страляць ужо вучымся. Як вырасьцем, дык будзем добрымі чырвонаармейцамі,—кажа Сулімчык.

У канцы мы паказалі піянэрам нашу баявую тэхніку: машыны, кулямёты, гарматы. Адзін чырвонаармеец ад імя ўсіх сказаў піянэрам:

—Дзеці, добра вучэцеся ў школе. Вывучайце вайсковую справу, вучэцеся добра страляць. Навучэцеся працаваць на трактары, дапамагайце вашым бацьком будаваць сацыялістычную гаспадарку, а мы будзем цьвёрда стаяць на варце нашых межаў. Будзем сачыць за нашымі ворагамі—капіталістамі і дамо належны адпор, калі яны ўздумаюць на нас пайсьці вайною. У нас, у Чырвонай арміі, рабочыя і калгасьнікі. Мы верны рабочай клясе і нашай партыі.

Піянэры здаволеныя пайшлі дамоў і запрасілі, каб мы да іх прышлі. У час Кастрычніцкага сьвята мы сходзім да піянэраў.

## Нашы ўдарнікі

Чырвонаармеец Дыдэнка прышоў у армію з Днепрабуду. Ён там працаваў сьлёсарам.

— У мяне і цяпер у вачох стаіць,—кажа ён,—вялізарны гігант Днепрабуду. А працавалі мы, вось дык працавалі! І цяпер хочацца паглядзець, як ён, дарагі Днепрабуд, маецца.

Дыдэнка—рабочы, камуніст. Калі ішоў у Чырвоную армію, дык сказаў таварышом па працы: „Быў на Днепрабудзе ўдарнікам—буду і ў арміі ўдарнікам“.

Дыдэнка ў арміі—прыклад усім. Ён дысцыплінаваны. Добра выконвае ўсе загады камандзіраў. Добра страляе з гарматы.

Камсамолец Людчык, з калгасу „Новы Шлях“ (Пухавіцкі раён), лепшы ўдарнік-чырвонаармеец. За добрую стральбу, за дысцыплінаванасьць ён атрымаў тры падзякі ад камандзіра.

Але ўсіх не пералічыш. Іх тысячы—ударнікаў баявой вучобы. Яны голасна заяўляюць:

— Мы прышлі на заклік партыі і нашага пралетарскага ўраду стаяць на варце Кастрычніка. Порах трымаем сухім. Калі буржуі ўздумаюць парушыць мірнае будаўніцтва сацыялізму—мы не пашкадуем ні сябе, ні свайго жыцьця ў барацьбе за справу рабочых. Мы адстаім заваёвы Кастрычніка.






# Дзед і ўнук

**УРЫВАК З КНІГІ Я. МАЎРА „АПОВЕСЬЦЬ БУДУЧЫХ ДЗЁН“**

**МАЛЮНКІ В. ВОЛКАВА**

У 1920 годзе, у часе адступленьня з Беларусі, белапалякі захапілі з сабой 14-гадовага хлопчыка з канём і загналі яго пад Варшаву. Так ён і застаўся ў Польшчы на ўвесь час. Служыў парабкам у маёнтку пана Загорскага, ажаніўся і меў сына Юзіка.

У кніжцы расказваецца пра той час, калі ўжо Юзіку было гадоў 14. У нашай краіне ў гэты час пабудавалі сацыялізм. У Польшчы і Зах. Беларусі ўлада знаходзіцца яшчэ ў руках багатых. Юзіку ўдаецца прабрацца праз мяжу да сваякоў у Савецкую Беларусь. Аб уражаньнях Юзіка і расказваецца ў гэтым урыўку. Гэты ўрывак мы раім прачытаць калектыўна, разам з настаўнікам. Няхай настаўнік растлумачыць вам тое, чаго вы не зразумееце.

Калі Юзік пад'яжджаў да Курычаў, дык пачаў трывожыцца. Адкуль ён узяў, што дзед яшчэ жыве? А можа даўно памёр? Яму-ж цяпер павінна быць гадоў пад семдзесят.

Ну, калі што якое, дык павінны быць яшчэ дзядзькі-стрыечныя браты. Ня выганяць-жа яны Юзіка з хаты? Ён ім дапаможа ў гаспадарцы, а можа ў якім з гэтых маёнткаў, што сустракаюцца па-дарозе, і работу знойдзе. Але абрыдаў яму маёнтак. Ён ахвотней пажыў-бы на вёсцы, як яго таварыш Максімка. Татка казаў, што Курычы лепш за іхнія Смалякі: і зямля лепшая, і мясцовасьць не такая балоцістая. Ён будзе езьдзіць на начлег з вясковымі хлопцамі. Напіша бацькам, каб і яны прыехалі. Можа атрымаюць сваю частку зямлі і завядуць сваю ўласную гаспадарку.

З такімі думкамі ён даехаў да станцыі.

Вылез. Азірнуўся. Некалькі будынкаў гарадзкога выгляду. Ад іх прысады ў маёнтак з вялізнымі пабудовамі. Едуць аўтамабілі, нагружаныя вялізнымі скрынямі.

Вось бяжыць хлопчык гадоў дзесяці. Юзік да яго:

— Ці ня ведаеш, братка, як прайсьці да вёскі Курычы?

— Курычы? Ды вось яны і ёсьць.

— Не. Мне ў вёску трэба.

— Вёску?

— Але.

— А што гэта такое „вёска“?

— Ну, дзе людзі жывуць.

— Ды вось яны тут і жывуць.

— Не. Дзе гаспадары жывуць.

— Якія гаспадары жывуць.

— Ну, вось што на зямлі працуюць.

— Ды ўсе тут працуюць, хто на зямлі, хто на прадпры емстве.

Юзік аж спацеў. Што той—дурны, ці што?

— Мне трэба вёска, дзе жывуць сяляне!

— А што такое „сяляне“?

Юзік раззлаваўся.

— Калі ня хочаш сказаць, ці сам ня ведаеш, дык так і казаў-бы. А то чаго жартуеш.

І пайшоў далей.

Хлопчык паглядзеў на яго са зьдзіўленьнем, потым пакруціўся на аднэй назе і крыкнуў усьлед:

— Сам ты дурань!

Нарэшце па дарозе трапілася дзяўчына. Юзік да яе. Расказаў хто ён, адкуль і што яму трэба. І яна зьдзівілася ня менш за таго хлопчыка, але потым зразумела і павяла ў маёнтак, у самы палац.

Са сьціснутым сэрцам пераступіў Юзік парог.

У невялікім высокім пакоі, каля вялізнага акна, з газэтай у руцэ сядзеў паважны пан з сівою барадою, у акулярах у „гарадзкім“ гарнітуры. Юзіку чамусьці здалося, што гэта доктар

— Вось, дзядзька Андрэй, да вас унук прыехаў з Польшчы!— весела крыкнула дзяўчына.

Стары зьняў акуляры і зьдзіўлена паглядзеў на ўвайшоўшых.

— Унук? Які?



*Юзік даехаў да станцыі.*

— Сын Міхала, з Польшчы,—прамовіў хлапец.

— Міхася?! Сына? Дык ён жывы!—усхвалявана ўскочыў дзед.

Гадзіны са дзьве распытваўся дзед аб сваім сыне, аб іхнім жыцьці, аб самім Юзіку. Потым раптам ускочыў і крыкнуў:

— Што-ж гэта я? Забалакаўся і забыўся, што ты, мусіць, есьці хочаш. Будзе яшчэ час пагутарыць. Зараз пашукаю.

І ён вышаў з пакою.

Застаўшыся адзін, Юзік паспрабаваў сабраць свае думкі, але, замест гэтага, яшчэ больш заблытаўся. Якім чынам дзед зрабіўся нейкім доктарам, калі сын яго, Юзікаў бацька, і да гэтага часу застаўся няпісьменным парабкам? Дзе рэшта радні?

Чаму гэтак цяжка натрапіць на сьлед вёскі Курычы, якая павінна быць недзе тутака, бо і маёнтак завецца Курычы? Чаму ўсе дзівяцца, калі пытаешся пра вёску?

Увайшоў дзед з міскамі.

— Мы паабедалі ўжо,—сказаў ён,—засталося толькі сёе-тое. Ну, нішто, падмацуйся.

„Сёе-тое" складалася з катлет і салодкай маннай кашы. Гэты абед зусім пераканаў Юзіка, што яго дзед вялікі пан. Мусіць, ён служыць у маёнтку доктарам. А можа і сам гаспадар маёнтку? Хто яго ведае?

— Гэта ваш маёнтак?—адважыўся, нарэшце, спытацца Юзік.

— Наш. А то чый-жа? — спакойна адказаў дзед. — Зараз якраз мне ня трэба ісьці на работу, дык я пакажу табе нашу гаспадарку.

— А вы... вы... на работу... ходзіце?—зьдзіўлена запытаўся Юзік.

— А як-жаж? Кожны павінен працаваць.

— Якую пасаду вы займаеце?

— Ды мне, старому, лёгкую працу далі: гной убіраць у куратніку.

Дзынь!—пакацілася лыжка па падлозе, а ўсьлед за гэтым бразнуўся з рук Юзіка і сподак з кашай...

Зірнуў дзед на Юзіка. А той сядзіць, вылупіўшы вочы і разявіўшы рот, нібы вар'ят, і глядзіць на дзеда, як на страшыдла якое.

— Што з табой?—спалохаўся дзед.—Хворы?

— Не... я... я.. я не разумею.. Як гэта такая работа і... і...— замармытаў Юзік.

— Што-ж тут такога?—яшчэ болей зьдзівіўся дзед.—Работа, як работа. Нават лепшая за іншую. Возьмеш машынку, павядзеш ёю па падлозе—і праз хвіліну падлога чыстая, вымытая.

— А я думаў, што вы... доктар які, ці што.

— Чаму так?—засьмяяўся дзед.

— Ды... усё па-панску.

— А-а! Вось яно што?—і дзед затросься ад сьмеху.—Я забыўся, што ты зьявіўся з другога сьвету і мяркуеш па-вашаму. Не, браток. У нас паноў няма, або, лепш сказаць, усе ў нас аднолькавыя паны. Кожны чалавек жыве па-людзку, кожная праца патрэбная і карысная. Для доктара таксама патрэбна наша праца, як для нас доктарская. Чаму-ж той, хто даглядае курэй



*Дзед расказаў унуку пра сваё жыцьцё.*

ці кароў, павінен жыць горш? Эх, рана я на сьвет нарадзіўся, не пасьпеў навукай ўладацьі Вось падвучыўся трохі—і ўсё. А некаторыя, маладзейшыя, навучыліся ня менш, як доктар ці прафэсар, і гэта зусім не перашкаджае ім араць зямлю. Наадварот яшчэ,—дапамагае.

— А як жывуць сяляне!—задаў пытаньне Юзік.

Дзед зноў засьмяяўся.

— Таксама, як і я. Я-ж селянін.

— Не. Тыя, што ў вёсках жывуць.

— Ды я-ж нікуды не выяжджаў. Так увесь век і жыву ў сваіх Курычах,—жартаваў дзед.

Усьміхнуўся і Юзік, бачачы, што дзед жартуе.

— А дзе Курычы?

— Ды вось тут, дзе ты сядзіш.

— А вёска дзе?—упарта пытаўся хлопец.

— Ну, дык ведай,—ужо сур'ёзна сказаў дзед.—Тых Курычаў, аб якіх ты думаеш, даўно ўжо і сьледу няма. Такіх вёсак, як вашыя Смалякі, ва ўсёй нашай краіне ня знойдзеш. Шмат гадоў мінула, як наша вёска злучылася ў адну гаспадарку. Спачатку мы жылі па сваіх хатах, а за гэты час будавалі дасканалыя агульныя гаспадарчыя будынкі: хлявы, сьвірны. Набылі машыны, узьнялі сваю гаспадарку ня горш за вашага пана Загорскага. Тады мы на месцы нашых халуп пабудавалі вось гэтую камяніцу, дзе і зьмясьціліся ўсе шэсьцьдзесят сямействаў нашай вёскі. Такім

чынам, як бачыш, я праўду казаў, што вёска Курычы знаходзіцца вось тут, дзе ты сядзіш.

Юзік нават азірнуўся па бакох.

— Якім чынам вы гэтак здолелі?—прамовіў ён задуменна,— каб яно можна было, дык і нашыя Смалякі гэтак зрабілі-б.

— На тое наша краіна Савецкая!—з гонарам адказаў дзед і нават пагладзіў сваю бараду. — Сваімі толькі Курычанскімі сіламі і мы не зрабілі-б. Але ў нас такі лад, што кожны працуе не для сябе, а для ўсіх. Нам далі машыны і будаўнічыя матар'-ялы, как хутчэй узьняць нашую гаспадарку. А наладзіўшы яе, мы вярнулі за ўсё гэта сваімі прадуктамі і даем як мага болей, каб і другія таксама ўзьнялі сваю гаспадарку. А хто дапаможа вашым Смаляком? Ці ня пан Загорскі?

— Мы па радыё чулі, — прамовіў Юзік, — што ў Курычах пабудован нейкі вялікі куратнік. Мільёны каштуе. Гэта тут?

— Тут. Ты ўбачыш гэты „куратнік“,—усьміхнуўся дзед.

— Няўжо-ж вы і мільёны набралі для пабудовы яго?

— Гэта дзяржава пабудавала.

— Ён, значыцца, ня ваш?

— Як табе сказаць?—задумаўся дзед.—І наш і ня наш. Таксама, як і гэты дом і ўсё, што ты бачыш навокал.

— Значыцца, праўда, што тут ніхто нічога свайго ня мае, як казалі ў нас?—з нейкім расчараваньнем сказаў Юзік.

Дзед паглядзеў на яго з усьмешкай.

— Зноў ты па-вашаму разважаеш! Ну, якую ўласнасьць ты хацеў-бы? Кавалак зямлі? Але ён патрэбен толькі для таго, каб мець хлеб. Ну, дык еж хлеба, колькі хочаш. Карову,—каб мець малако? Малака кожнаму з нас хапае. Каня? Я і без яго магу ехаць, куды мне трэба. Хату? Я думаю, кожны ваш селянін згадзіўся-б памяняць сваю халупу на гэтае памяшканьне. Ну, якую яшчэ ўласнасьць ты хацеў-бы?

Юзік нічога ня мог адказаць. У галаве яго стварылася блытаніна. Ён убачыў, што сапраўды тут ня маюць уласнасьці, як і казалі. Але разам з тым бачыў, што маюць усё, што патрэбна. Як-жаж гэта так? І маюць і ня маюць!

— Вось пажывеш, ня тое яшчэ ўбачыш, — дадаў дзед.— А пакуль што пойдзем, паглядзім „вёску“ Курычы, пазнаёмішся з сваімі сваякамі-„сялянамі“ і ўсёй нашай гаспадаркай.

Юзік пайшоў за дзедам і апынуўся зусім у другім, нібы казачным сьвеце.

# Дзеці вольнай краіны

**Ніводная ў сьвеце ўлада так не клапоціцца аб дзецях, як савецкая ўлада. Дзеці— наша будучыня. Цяперашнія дзеці павінны будуць закончыць тую справу, якую распачалі іхныя бацькі ў Кастрычніку 1917 г. Нашы дзеці рыхтуюцца да вялікай і адказнай работы — стаць добрымі будаўнікамі сацыялізму.**



Усе дзеці Савецкага Саюзу вучацца ў школах. Зараз кожная нацыянальнасьць мае свае школы, дзе вучаць дзяцей на роднай мове.

На фатаграфіі — татарскія дзеці вучацца ў сваёй школе.



Сотні тысяч самых меншых дзяцей гадуецца ў дзіцячых ясьлях. Іх маткі могуць спакойна працаваць на фабрыках, заводах, у калгасах. Дзяцей тут даглядаюць нянькі.

На фатаграфіі—дзіцячыя ясьлі.



Дашкаляты таксама не забыты. Яны маюць свае дзіцячыя сады і пляцоўкі.

На фатаграфіі —дзіцячая пляцоўка ў саўгасе „Вілень“.

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ
„ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдактар—А. ЯКІМОВІЧ.




Друкарня імя Сталіна. Заказ № 2621. 5415 экз. Уп. Галоўлітбелу №а 5.

Дзесяткі мільёнаў рабочых і сялян у буржуазных краінах ня маюць працы. Яны вымушаны галадаць і жабраваць. Толькі пралетарская рэвалюцыя ва ўсім сьвеце вызваліць працоўных ад галоднай сьмерці.

